# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

1993 ЛІСТАПАД 17 Серада

№ 217 (652)

Цана 20 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### ФОНДАМ ЗАЦІКАВІЛАСЯ ААН

*Беларускі фонд фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў усё часцей прыцягвае ўвагу замежных фірмаў і міжнародных арганізацый : іх дэлегацыі бываюць тут практычна штодзённа.*

*Днямі адбылася сустрэча працаўнікоў фонду са спецыялістамі-экспертамі, якія прыехалі ў Мінск па лініі ААН — ПРААН. На сустрэчы прысутнічалі таксама прадстаўнікі Саюза прадпрымальнікаў і Саюза прадпрымальнікаў і арандатараў Беларусі.*

*Па звестках БелаПАН, міжнародных экспертаў асабліва цікавілі такія пытанні, як грашовы абарот членаў вышэйназваных саюзаў; працэнт высокатэхналагічных вытворчасцей у агульным аб'ёме прадпрымальніцкай вытворчасці; спробы выйсця беларускіх бізнесменаў на замежны рынак і іншыя. Не выключана, што, шчыра зацікавіўшыся дзейнасцю Беларускага фонду фінансавай падтрымкі прадпрымальнікаў, эксперты ААН — ПРААН пасадзейнічаюць выдзяленню для яго грашовых рэсурсаў.*

Ірына ЛЕЎШЫНА.

### КАБ КВАТЭРЫ БУДАВАЛІСЯ

Урад і Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь вырашылі ў IV квартале 1993 года дадаткова накіраваць на крэдытаванне асабістага і кааператыўнага будаўніцтва жылля 40 мільярдаў рублёў, якія Ашчадны банк павінен размеркаваць наступным чынам: Брэсцкай вобласці — 4,9 мільярда , Віцебскай — 4,7, Гомельскай — 4,3, Гродзенскай — 4,8, Мінскай — 6,2, Магілёўскай — 3,5 і Мінску — 6,6 (сума даецца з улікам крэдытавання будаўніцтва асабістых жылых дамоў жыхарамі Мінска ў Мінскім раёне). На цэнтралізаванае крэдытаванне пакінута 5 мільярдаў рублёў.

Ільготнае крэдытаванне жыллёва-будаўнічых кааператываў і асоб будзе праводзіцца ў адпаведнасці з прынятымі раней нарматыўнымі актамі. А прыярытэт будуць мець аб'екты, тэрмін уводу ў эксплуатацыю якіх надыходзіць у бягучым годзе.

Дзмітрый ГРЫВЕНСКІ.

### ГАЗЕТА... ЗА 15 ТЫСЯЧ

**Знаменательное событие произошло 15 ноября в Минске: сюда вновь стали завозить иностранную периодику — «Die Welt», «Le Monde», «L'Equipe»...**

**Занялось этим благородным делом белорусско-итальянское СП «Каприччио». Приобрести западную прессу можно в фирменном магазине совместного предприятия, который расположен на первом этаже универсама «Центральный».**

**Но не спешите радоваться и бежать по указанному адресу, любители зарубежного «свежачка», ибо продается он, как и многие другие товары «Каприччио», за доллары. Как передал корреспондент РИДа, средняя цена одной газеты составляет 2–3 «зеленых». Купить можно, конечно, и за рубли. По курсу. СП «Каприччио» просит за доллар самую малость — 5000 рублей. Почитаем?**

Руслан БАТЕНКОВ.

### НУ ОЧЕНЬ ТИХИЙ АУДИТ

Недавно под эгидой представительства международной ассоциации студентов-экономистов AIESEC Белорусского государственного экономического университета в Минске проходил международный семинар «Аудит-93».

По сведениям агентства РИД, слушателями семинара были молодые экономисты из Германии, Словении, Бельгии, Финляндии, государств СНГ. В его работе приняли участие представители таких известных аудиторских фирм, как «Price Watter House», «Ernst and Young», «BDO», «Binder», сотрудники белорусских компаний и группа независимых аудиторов.

По итогам семинара был проведен «круглый стол», на котором обсуждался проект закона об аудиторской деятельности.

Руководители семинара ставили целью дальнейшее развитие аудита в Республике Беларусь и расширение международных связей, что позволило бы укрепить доверие к белорусскому бизнесу.

Правда, упущения в организации, в частности, отсутствие хорошей рекламы, привели к тому, что это мероприятие прошло незамеченным для многих потенциальных участников.

Сергей ВЕРАС.

## ТЭМА ДНЯ

### «ЗАБІЛІ ЗАЙЦА – НЕ ЗАБІЛІ, АЛЕ, БРАТ, ШУМУ НАРАБІЛІ...»

**Выступаючы на апошнім пасяджэнні Сойму Беларускага народнага фронту, старшыня гэтага руху Зянон Пазняк заявіў, што, паводле папярэдніх звестак, невялікая група людзей з урадавага асяроддзя планавала 9 лістапада разагнаць Вярхоўны Савет Беларусі і ўвесці аўтарытарны рэжым Вячаслава Кебіча. Яшчэ і гэтым, маўляў, тлумачылася вялікае скапленне міліцыі і тэхнікі ля Дома ўрада ў дзень адкрыцця 13-й сесіі парламента. «Знайшоўся адказны работнік, — заявіў лідэр парламенцкай апазіцыі БНФ, — гатовы арганізаваць у правакацыйных мэтах праліццё крыві». Прычым са слоў Пазняка вынікала, што гэты адказны работнік не міністр унутраных спраў Ягораў і не старшыня КДБ Шыркоўскі.**

Сяргей ЛІТВІН, БелаПАН.

## ТЕМА ДНЯ

### БУДЕТ ЛИ БЕЛОРУССКИЙ ВАУЧЕР СЕРПАСТЫМ И МОЛОТКАСТЫМ?

Согласно постановлению Совмина, выдача белорусских ваучеров должна начаться в июле 1994 года. Но Председатель Верховного Совета С.Шушкевич считает, что это недопустимо поздно. В своем стоминутном докладе на сессии парламента он предложил для ускорения приватизации сделать белорусским ваучером страницу из действующего в республике советского паспорта. Например, русскоязычную страницу, которая, по мнению спикера, «не очень нужна».

Однако у многих граждан Беларуси, получавших паспорта в других республиках бывшего СССР, белорусскоязычной страницы в паспорте нет. И перспектива остаться без фамилии, имени и отчества, с одной лишь фотографией, их не прельщает. К тому же по закону в Беларуси приватизационные чеки должны быть именными, то есть подтверждаться удостоверениями личности. А паспорт сам себя подтвердить не может.

Кроме того, российский принцип «один человек — один ваучер» белорусский парламент не принял, поэтому у граждан республики будет разное количество чеков. Так стоит ли совершать рывок в приватизацию, вырывая страницы из «серпастых и молоткастых»?

Юрий ВИКТОРОВИЧ, РИД.

### КАЛЯНДАР

Серада, 17 лістапада

*СОНЦА —7.40/16.09.*
*Даўжыня дня — 8.29.*
*МЕСЯЦ — маладзік 13 лістапада,*
*усход 9.54/заход 17.55.*

**ІМЯНІНЫ**

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Іаанікія, Нікандра.*

*Каталіцкія — Альжбэты, Самуэля.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Галактыёна, Епістыміі, Ерма, Іоны, Рыгора.*

*Каталіцкія — угодкі кансакрацыі Базылікі святых Пятра і Паўла ў Ватыкане.*

### КУРС ОБМЕНА наличной валюты в обменных пунктах коммерческих банков г.Минска и официальный курс, установленный Национальным банком на 17 ноября 1993 года

| Наименование банка | Доллар США | | | Немецкая марка | | | Российский рубль | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | | Продажа | Покупка | | Продажа | Покупка | Продажа |
| | Наличный расчет | Чековая книжка | | Наличный расчет | Чековая книжка | | | |
| Минское отделение АРКБ "Комплекс" | 3920 | 4310 5000 | 4100 | 2315 | 2550 2955 | 2420 | 2.65 | 3.05 |
| АКБ "Белбизнесбанк" | --- | * * | 4350 | --- | ** | 2600 | 3.10 | --- |
| АКБ "Белорусский народный банк" | 4000 | --- | 4200 | 2300 | --- | 2500 | --- | 3.20 |
| АКБ "Белпромстройбанк" (на 16 ноября) | 3700 | --- | 3820 | 2180 | ** | 2300 | 3.00 | 3.30 |
| АКБ "Беларусь" | 3975 | 4680 | --- | 2437 | 2880 | --- | --- | 4.50 |
| АКБ "Дукат" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Поиск" | Сведения не предоставлены | | | | | | | |
| АКБ "Приорбанк" | 3920 | 4310 | 4020 | 2330 | 2560 | 2410 | 2.60 | 3.20 |
| КБ "Северо-запад" | 3822 | 4508 | 4500 | 2303 | 2400 | 2650 | --- | --- |
| Национальный банк РБ | 5705.00 | | | 3368.00 | | | 4.10 | |

** -- не принимают

Информация (на 9 час. 45 мин.) подготовлена "Агентством Гревцова". Тел./факс (0172) 31-04-02

## РЭХА ПАДЗЕІ

### СВЯТЫ АБАРОНЦА

Галіна КАЛЕВІЧ, «ДВ».

Днямі грэка-каталіцкая царква ўпершыню на Беларусі адзначала Свята Святога Язафата, архібіскупа Полацкага, які 270 гадоў таму прыняў пакутніцкую смерць.

Язафат Кунцэвіч нарадзіўся ў 1580 годзе. Адукацыю атрымаў у Вільні. Па заканчэнні акадэміі пастрыгся ў манахі.

Бог даў яму незвычайную магчымасць пераконваць людзей. Словам маладога святара было цесна ў сценах Свята-Троіцкага манастыра. Ён вельмі часта прапаведаваў на вуліцах і плошчах. Калі запрашалі ў хату — ішоў і туды, нягледзячы на тое, чыя яна — простага рамесніка ці мажнага пана.

Яго пропаведзі зрабілі тое, што не па сілах было нават каралеўскім указам. Вядома, што ў тыя часы на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага нараджалася Унія — Адзіная Саборная Царква, якая аб'ядноўвала Праваслаўную і Каталіцкую. Дарэчы, Евангельскае паняцце Царквы — гэта паняцце аб Царкве Адзінай, Усяленскай, Саборнай.

Праціўнікі такога аб'яднання спадзяваліся, што са смерцю архібіскупа Язафата памрэ і Унія. Але чалавек мяркуе, а Бог мае ўладу. Бязвінна пралітая кроў Святога Язафата (вялікага абаронцы зямлі беларускай) наадварот умацавала дух уніятаў і павярнула да Уніі былых яе праціўнікаў.

Набажэнствы, прысвечаныя Святому Язафату, праходзілі ў капліцы, якую нядаўна атрымала грэка-каталіцкая царква (Прытыцкага, 38). Праводзіў яе уніяцкі святар, айцец Казімір разам з ксяндзом касцёла Святога Роха Міхалам.

## ГЭТА ФАКТ

### ШЛЕЙФ МАСКОЎСКІХ ПАДЗЕЙ БЕЛАРУСЬ АБЫДЗЕ?

Нацыянальна-дэмакратычная партыя Беларусі атрымала ліст з Пракуратуры рэспублікі ў адказ на свой зварот, у якім патрабавалася правесці расследаванне ўдзелу Саюза афіцэраў у падрыхтоўцы да кастрычніцкага мяцяжу ў Маскве.

Паводле папярэдніх звестак, гаворыцца ў адказе Пракуратуры, у час падзей у Маскве 3-4 кастрычніка загінулі двое грамадзян Рэспублікі Беларусь. Забітымі аказаліся генеральны дырэктар асацыяцыі «Мока» Мокін С.І. і палкоўнік запасу Ключнікаў Л.А. Інфармацыі аб іх проціпраўных дзеяннях няма. Саюз афіцэраў іх у Маскву не накіроўваў. Дастатковых падстаў для прыняцця мер пракурорскага рэагавання не маецца, канстатуе Пракуратура.

Антон АНДРОСАЎ, БелаПАН.



## ВЫСТАВКИ

### «КОНСУМЭКСПО-93»: ОНИ ТОГО СТОЯТ

**Вчера в комплексе «Минскэкспо» открылась международная выставка товаров народного потребления «Консумэкспо-93». Ее организовали дирекция комплекса и фирма «Трэйдком» (ФРГ).**

**Мебель, одежду, обувь, игрушки, ковры, парфюмерию, галантерею, продукты питания, сувениры представили около 40 предприятий и торговых компаний. В том числе ведущие зарубежные производители товаров — «Жилетт» (Швейцария), «Велла» (ФРГ), «Орион» (Австрия), «Алко» (Финляндия). А также — традиционные белорусские экспортеры и наши лидеры в производстве товаров — Минское объединение художественных изделий, АО «Мілавіца», кожгалантерейная фабрика им. Куйбышева, Брестское ковровое объединение и др. Ведь в бывшем СССР Беларусь занимала передовые позиции в этом направлении.**

**Организаторы надеются на успех и потому, что не за горами Новый год и Рождество. Крупные оптовые покупатели — государственные, кооперативные, частные — всерьез заранее готовятся к предпраздничной торговле. Выставка будет работать до 20 ноября включительно, и минчане, купив входной билет, имеют шанс не только увидеть много интересного, но и что-нибудь приобрести. Цены, конечно, не низкие, но товары того стоят.**

Андрей ПОТРЕБИН, «ДВ».

### «ВОСЕНЬ МІНШЧЫНЫ - 93»: ЧАГО ТАМ ТОЛЬКІ НЯМА



Учора ў Рэспубліканскім выставачным цэнтры (вул. Я.Коласа, 27) пачалася выстава-кірмаш «Восень Мінскчыны-93». У ёй удзельнічаюць сельскія гаспадаркі і прадпрыемствы перапрацоўчай прамысловасці з усіх 22 раёнаў вобласці, розныя абласныя і рэспубліканскія вытворчыя аб'яднанні.

Цяжка нават бегла пералічыць экспанаты, часам вельмі далёкія ад сельгасвытворчасці. Бо вытворчыя ўчасткі калгасаў і саўгасаў працуюць вельмі плённа, асвойваючы ўсё новыя вырабы. Тут і мэбля, і адзенне, і абутак. Але ўсё ж галоўнае — прадукты харчавання. Калі б гэтыя вэнджаныя каўбасы, вырабы з мяса, птушкі, нават вэнджаных парасят, убачыць усе адначасова, ды не на выставе, а на паліцах магазінаў... Што ж датычыць асартыменту мінскіх магазінаў садавіны і агародніны, то ён мог быць значна шырэйшым. Магчымасці ж ёсць: «Восень Міншчыны» дэманструе, што калгасы і саўгасы, нягледзячы на крызіс, працуюць і кормяць Мінск і іншыя гарады. Бо фермераў на выставе было... аж чатыры; памеры іх гаспадарак 10-15 гектараў. Ды і тую зямлю яны атрымлівалі з вялікімі намаганнямі.

На мой погляд, прагледжваецца такая тэндэнцыя: перапрацоўчыя прадпрыемствы, калгасы і саўгасы актыўна развіваюць вытворчасці, часам зусім далёкія ад традыцыйных сялянскіх, шырока наладжваюць гандаль.

Даволі вузкі асартымент прадукцыі перапрацоўкі, бляклае афармленне, прымітыўная тара застаюцца традыцыйнымі для нашага аграпрамысловага комплексу.

Цікавасць і карысць была для ўсіх. На пляцоўцы перад будынкам для наведвальнікаў быў арганізаваны і рознічны продаж некаторых вырабаў. Выстава-кірмаш для ўсіх аказалася карыснай і цікавай.

Міхаіл ВАЛЬКОЎСКІ.
Фота Юрыя ЗАХАРАВА.





## КРИМИНАЛ

### *МЯСНЫЕ СНОВИДЕНИЯ*

Тринадцатого ноября в девять часов утра продавцами универсама «Рига» здесь же, в магазине, задержан 44-летний рубщик мяса Л. История, которая приключилась с этим человеком весьма почтенной специальности, в кинематографическом варианте могла бы «переплюнуть» любую «Блондинку за углом» или что-то вроде этого. Суть в том, что предыдущим вечером прямо перед закрытием магазина уже «дошедший до кондиции» пьяница-рубщик имел неосторожность свалиться и уснуть на рабочем месте. После двухчасового сновидения пробудившийся мясник принялся опустошать прилавки, нахапав в общей сложности товаров и продуктов на 300 с лишним тысяч рублей. После этого вновь наступил глубокий сон, который и был нарушен продавцами утром.

Задержанный водворен за решетку, проводится расследование.

### *УРОК? ДАЙ БОГ ВПРОК...*

**В ночном баре «Папараць-кветка» у 25-летней жительницы Заславля М. некто «свистнул» дубленку. Спустя несколько часов дежурный наряд Московского РОВД выявил и задержал воришку. Им оказался 22-летний работник Дворца культуры железнодорожников А.**

Сергей РАЧИЛА.

## ГОРОДСКИЕ ЗАБОТЫ

### В СТОЛИЦЕ В МОДЕ — КУРСЫ ПО ЗАКАЛИВАНИЮ

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

**Всем памятна рижская зима прошлого года. Тогда жители латвийской столицы напрочь расстались с мыслью о горячей воде в их домах. Не знаю, как там у них сегодня, но, похоже, и нас уже начинает пробирать «суверенный» озноб. Не согревает даже накал прений на очередной сессии Верховного Совета. К примеру, жители микрорайона Малиновка и части домов микрорайона Юго-Запад уже ощутили на себе все прелести зимы — горячая вода поступает сюда по графику, где-то по 8–10 дней в месяц. Не редки такие отключения и в других районах столицы. Причина как всегда тривиальна. В той же Малиновке из-за различных неувязок и проблем с поставками был сорван ввод в строй понизительной станции. Сначала возникли накладки с кабелем, затем ударили морозы. Сейчас коммуникация уже проложена, но необходимо еще кабельное соединение. А для этого требуется плюсовая температура... Между тем, поеживаются в своих квартирах и жители остальных микрорайонов столицы. Прохладно и у нас в Доме печати.**

**В надежде хоть как-то согреться , я позвонил в горисполком, в отдел энергетики и топливных ресурсов. Трубку подняла специалист второй категории инженер Т.М.МИХАЛЬЧУК.**

— Всему виной обстановка с топливом, — замечает Тамара Михайловна. — В принципе, нормативная температура, 18 градусов, во всем городе более-менее поддерживается. Но у этого правила с каждым днем все больше исключений. Что далеко ходить, я сама живу на цокольном этаже одного из домов по улице Захарова. Так вот, температура воздуха у нас выше 15-ти никак не поднимается. И никакие ухищрения и утепления здесь не спасают — старый дом, такова планировка, маломощны и устарели отопительные системы... К слову, не на много теплее и в кабинетах горисполкома. Окна огромные, помещения тоже, а батареи на ладан дышат, у самих ноги стынут... А включить калорифер рука не поворачивается, больно дорога сегодня электроэнергия, приходится экономить. Учтите еще и то, что былой единой энергосистемы, в которую мы входили, уже нет. Тогда, между прочим, топлива доставало, и воздух в основном прогревался до 22 градусов. Может, потому мы сразу и ощутили снижение температуры до нормативной, а то и ниже...

Проблем с отоплением и горячей водой было бы еще больше. Но положение спасают относительно ритмичные поставки газа. На него-то и налегают на наших ТЭЦ, экономя мазут или компенсируя его недостачу. Представьте себе, с ним настолько сложно, что мы уже позарились на госрезерв. На ТЭЦ-2 сегодня работают только на природном газе, остаток мазута — 76 тонн. Стараются использовать газ и на ТЭЦ-3. Здесь мазута осталось чуть более 5 тысяч тонн, но потребление его ежедневное — 850. Получают же каждый день от силы сотни две-три тонн мазута... Правительство обещает скорые поставки топлива. Но обычный интервал от подписания документов до их реализации и подвоза топлива как минимум недели две-четыре. Так что работать практически приходится «с колес». Жаловаться сейчас в ЖЭСы и ЖРЭО, в теплосети, наседать на депутатов нет смысла. Все неувязки — в отсутствии топлива, судьба поставок которого решается на более высоком уровне.

Правда, чуть прибавить в отоплении все-таки можно. На два-три градуса станет теплее в квартире, если ее соответствующим образом утеплить, изолировать от холода и сквозняков. Остаются резервы и в утеплении самих домов. Посмотрите, как многие из них зияют пустыми глазницами подвальных и чердачных окон, в каком состоянии входные двери в подъезд и что творится в тамбурах на этажах. Хозяйский глаз при желании увидит еще и большие безобразия. Стоит только присмотреться...

ЮБІЛЕЙ

# "...БЕЛАРУСЬ. ЁЙ АДНОЙ Я ЦЯПЕРАКА МАЛЮСЬ"

## Сёння -- 100 гадоў з дня нараджэння беларускага ваеннага і палітычнага дзеяча, літаратара Кастуся Езавітава.

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

**Першыя публікацыі пра Кастуся Барысавіча Езавітава з'явіліся нядаўна. Ад невялікага артыкула пра яго лёс і некаторых яго твораў (публікацыя А.Бяляцкага, часопіс «Спадчына», 1992, №2) да матэрыялаў, пачэрпнутых з архіваў КДБ Рэспублікі Беларусь (публікацыі У.Міхнюка, Я.Паўлава ў 1–3 нумарах газеты «Згода», 1992 і А.Хацкевіча — у «Нёмане», 1992, №3). Асобныя моманты біяграфіі К.Езавітава закранаюцца і ў артыкуле Г.Сурмач «Мы адчувалі, што мы народ!», у якім прасочваецца лёс архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі («Літаратура і мастацтва», №13, 26 сакавіка 1993 года).**

Безумоўна, найбольш значныя звесткі, так сказаць, мы атрымалі з вуснаў самога Кастуся Барысавіча. Захаваліся яго аўтабіяграфія, згадкі «Першы Усебеларускі кангрэс», а таксама аб'ёмныя «Воспоминания», якія тычацца розных момантаў дзейнасці БНР, але больш Беларускай Цэнтральнай Рады, створанай, як вядома, у гады мінулай вайны. За ўсімі гэтымі сведчаннямі паўстае найперш воблік самога аўтара, якога А.Хацкевіч, думаецца, слушна назваў «героем і пакутнікам свайго часу».

Кастусь Езавітаў нарадзіўся 5 лістапада (па старому стылю) 1893 года ў Дзвінску, цяперашнім Даўгаўпілсе. Закончыў Віцебскі настаўніцкі інстытут і Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе. На фронт пайшоў добраахвотнікам. Пачуццё нацыянальнай годнасці авалодала ім ужо ў той час. У 415-ым Пяцігорскім пяхотным палку, дзе служыў К.Езавітаў, ён у 1917 годзе стварыў з афіцэраў і салдат беларускую суполку, якая карысталася немалым уплывам, вяла досыць актыўную работу.

Калі ў тым жа 1917 годзе стала вядома аб адкрыцці ў Віцебску з'езда беларусаў-вайскоўцаў, сябры па зброі, не задумваючыся, уключылі ў лік дэлегатаў і К.Езавітава. Праз некаторы час яго можна было ўбачыць і на Першым Усебеларускім кангрэсе, які праходзіў, як вядома, 5 снежня (па новаму стылю 18) 1917 года ў Мінску, у памяшканні гарадскога тэатра, цяперашняга Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Успаміны «Першы Усебеларускі Кангрэс», напісаныя К.Езавітавым, даюць нямала фактычнага матэрыялу пра гэтую важную падзею, якая мела, кажучы словамі самога Кастуся Барысавіча, «дужа вялікую ролю ў гісторыі змагання беларускага народа за стварэнне сваё незалежнае дзяржавы. Ён (кангрэс — А.М.) закончыў першы перыяд беларускага адраджэнцкага руху, перыяд паступовага нацыянальнага самаўсведамлення паасобных адзінак і ўтварэння першых нацыянальных арганізацый, якія давалі магчымасць згуртаваць нацыянальныя сілы народу і падрыхтаваць масавае выяўленне волі народу. Вось жа 1-шы Усебеларускі Кангрэс быў гэтым выявіцелем волі ўсяго беларускага народу і ў сваім праўным і псіхалагічным значэнні адгуляў ролю сапраўднага Беларускага Устаноўчага Збору».

У абавязкі К.Езавітава ўвайшло стварэнне беларускіх вайсковых падраздзяленняў. На той час ён меў усяго толькі званне паручніка, але быў абраны членам Цэнтральнай вайсковай Рады. Калі ж у лютым 1918 года бальшавіцкія часці пакінулі Мінск, К.Езавітава прызначылі начальнікам беларускага гарнізона і камендантам беларускай зоны горада.

На сакавік таго года прыпадаюць намаганні надаць Беларусі статус дзяржавы. Сярод самых актыўных прыхільнікаў падобнага кроку нязменна быў паручнік К.Езавітаў. Ён праяўляў высокую эрудзіраванасць, уменне арыентавацца ў складаных палітычных падзеях. Да яго голасу прыслухоўваліся і куды больш вопытныя паплечнікі.

Нездарма, калі 25 сакавіка 1918 года была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка, К.Езавітава выбралі народным сакратаром ваенных спраў — ваенным міністрам Першага беларускага Урада. Зразумела, што атрымаў ён і павышэнне ў званні. Праўда, палкоўніку К.Езавітаву на гэтай пасадзе не ўдалося разгарнуцца — у хуткім часе Рада БНР пакінула Мінск, перабралася ў Літву.

Кастуся Езавітава спачатку паслалі шэфам ваенна-дыпламатычнай місіі ў Літву, пасля — у Эстонію, дзе ён прабыў да 1921 года. Займаўся чыста вайсковымі справамі, звязанымі з намаганнямі па далейшай барацьбе за незалежнасць Беларусі. У прыватнасці, ён пасяхова ўрэгуляваў з тагачасным эстонскім урадам пытанні па пераходу фарміравання, якім кіраваў генерал С.Булак-Балаховіч, пад юрысдыкцыю БНР. Дзелавітасць палкоўніка К.Езавітава не магла не застацца незаўважанай з боку кіраўніцтва. 17 мая 1920 года Рада народных міністраў БНР прыняла пастанову аб прысваенні яму звання генерал-маёра. Як гаварылася ў тым дакуменце — «за выдатную працу на карысць Беларускай Народнай Рэспублікі, выпаўненую за граніцай».

Мелася на ўвазе толькі ваенная дзейнасць. Але ж Кастусь Езавітаў займаўся ў гэты час і іншымі справамі, і калі глядзець з вышыні сённяшняга дня, дык куды больш важнымі. Падчас вучобы ў Віцебску ён, як сам прызнаваўся, «прызвычаіўся цаніць архівы». І яшчэ ў 1919 годзе ў Коўне, куды пераехаў урад БНР, «рабіў высілкі да таго, каб упарадкаваць дакументы і выдаць іх».

Думаецца, ёсць падставы і далей працытаваць Кастуся Барысавіча. У лісце, пасланым 5 чэрвеня 1943 года даверанаму пры Генеральным камісарыяце Беларусі доктару І.Ермачонку, ён растлумачваў свае намаганні па зберажэнню архіваў БНР: «Мною ў тым годзе былі ўпарадкаваны і выдадзены дакументы аб польскай акупацыі ў Заходняй Беларусі ў маёй кнізе «Беларусы і Палякі», а затым прыступлена было да працы «Беларусь ад Керанскага да Пілсудскага», у якой я хацеў апублікаваць дакументы 1917, 1918 і пачатку 1919 гадоў. На жаль, праца мая засталася няскончанаю, бо дзе-хто з кіруючых беларускіх урадавых колаў знаходзіў, што яшчэ не прыйшоў час апублікаваць дакументы гэтага перыяду. У часе гэтае працы я меў магчымасць пазнаёміцца з некаторымі дакументамі, што перахоўваліся ў міністра Варонкі, і памятаю, што архіў ягоны быў дужа карысны і багаты».

Відавочна, што трэба было мець сапраўдна навуковае чуццё, каб ва ўмовах, калі вострыя перыпетыі палітычнай барацьбы і пастаянных ваенных сутыкненняў не давалі пэўнасці ў далейшым зыходзе падзей, прымаць захады па зберажэнню гістарычнай спадчыны, рупіцца, каб ніводзін дакумент не прапаў бясследна.

Гэтымі памкненнямі кіравала жаданне паболей ведаць, хто такія беларусы і адкуль яны. Жаданне гэтае ў К.Езавітава яшчэ больш узрасло, калі ён быў вымушаны адысці ад ваеннай справы і цалкам заняцца культурна-асветніцкай дзейнасцю. У 1921 годзе беларускае прадстаўніцтва ў Латвіі ліквідавалі, К.Езавітаў прыняў латышскае падданства.

Клопатаў хапала, але перад усімі сваімі тагачаснымі заняткамі ён на першы план ставіў захаванне архіва БНР. Ведаў, наколькі неацэнны гэты матэрыял для будучых гісторыкаў. Ведаў і вымушаны быў канстатаваць, што тут далёка не ўсё залежала ад яго: «На вялікі жаль, я сам ад 1921 года займаўся выключна працаю сярод беларускае меншасці ў Латвіі і выдавецтвам беларускіх кніг і падручнікаў, дужа рэдка перапісваючыся з Прагаю, Вільняю, Коўнаю і амерыканскімі беларусамі, а таму не меў магчымасці і часу далей цікавіцца справамі Беларускага архіва больш энергічна, хаця ж некалькі разоў спрабаваў намовіць нябожчыка В.Захарку і Т.Грыба, каб яны заняліся апублікаваннем тых дакументаў, якія яны мелі ў Празе. На гэта мне адказвалі, што яшчэ не ўсё сабрана, а таму трэба пачакаць».

Не сказаць, каб беларуская арыентацыя К.Езавітава знаходзіла паразуменне з боку латышскіх улад. Пярэчанне, відома, выклікала не столькі яго асветніцкая работа, колькі жаданне бачыць Беларусь адзінай дзяржавай у яе этнічных межах. Значыць, у поўнай ступені ён пасягаў і на тэрыторыю Латвіі.

Кастусь Езавітаў двойчы трапляў у турму. Першы раз, калі ён праходзіў па так званаму «беларускаму працэсу» 1925 года, атрымаў адзінаццаць месяцаў зняволення. У другі раз апынуўся за кратамі ўжо ў 1930 годзе, але на гэты раз суддзі былі вымушаны яго апраўдаць.

Па-ранейшаму К.Езавітаў працаваў выкладчыкам — і ў беларускіх пачатковых школах у Рызе, і ў вячэрняй школе для дарослых, з'яўляючыся аднačасова і яе дырэктарам. І вершы пісаў. Пісаў пра тое, чым жыў, чым балела душа:

У куце больш не  
маю бажніц, —  
Мапа там. А на ёй —  
Беларусь.  
Ей адной я цяпер малюсь,  
Перад ёй штодня падаю ніц.

Ужо ніхто не заб'е  
беларускай душы!  
У цяжкіх муках яна акавалась  
бранёй!  
Не зрачомся мы Светлай Волі  
сваёй, —  
На свет вольны мы выйдзем з  
глушы!

Ён ведаў — на радзіме ўсё далёка не так, як яму хацелася. Але Кастусь Езавітаў ішоў сваім шляхам, іншым не дадзеным. Гісторыі разбірацца, дзе ён рабіў правільна, а дзе памыляўся.

Вось матэрыялы допыту ад 26 красавіка 1945 года ва ўпраўленні «Смерш» 1-га Украінскага фронту (захавана адметнасць арыгінала): «С 1925 года по 1934 год я сотрудничал с полпредом Латвии Черных, после Ульяновым, под кличкой «Озол». В 1940 году под той же кличкой состоял в НКВД Латвийской ССР. В 1941 году в марте месяце меня вызвали в Москву под предлогом представителя профсоюзов, так как я состоял в руководстве профсоюза учителей. Отправление в город Москву оформлял Иванов. При приезде в город Москва меня на вокзале встретили и отвезли автомашиной в отель «Москва» и разместили на четвертом этаже — имел переговоры с работниками НКГБ, с кем именно, сейчас вспомнить не могу. В разговорах мне подчеркивали, что должен связаться с белорусской эмиграцией и работать среди нее так, чтобы постараться занять более высокое положение. С наступлением военных событий мне удалось связаться з белорусской эмиграцией в Берлине, а также в Минске».

Наколькі цесным было гэтае супрацоўніцтва, вядома, могуць сказаць далейшыя пошукі ў архівах. Найперш, архівах колішняга КДБ СССР.

Вось факты, якія сумнення не выклікаюць. К.Езавітаў працягваў жыць і працаваць у Рызе, арганізоўваў, як і ў мірны час, беларускія школы. Намаганні далі поспех, былі адноўлены чатыры школы. Складаў «Беларускі бібліяграфічны слоўнік». Займаўся далейшым упарадкаваннем (па меры магчымасці) архіва БНР.

27 чэрвеня 1944 года К.Езавітаў прыняў удзел у рабоце так званага Другога Усебеларускага кангрэса ў Мінску і быў абраны членам Рады. Пры наступленні часцей Чырвонай Арміі вярнуўся ў Рыгу. З немцамі эвакуіраваўся ў Берлін. Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады Р.Астроўскі прысвоіў яму званне генерал-маёра Беларускай Краёвай абароны, назначыў кіраўніком ваеннага аддзела БНР, каб далей весці барацьбу за незалежнасць Беларусі.

К.Езавітаў быў арыштаваны контрразведкай «Смерш» 26 красавіка 1945 года ў нямецкім горадзе Загане. Быў перавезены ў гарадскую турму Міністэрства ўнутраных спраў БССР у Мінск, дзе, калі верыць дакументам, памёр 23 мая 1946 года «ад туберкулёзу пры дыстрафіі 3-й ступені».

Магчыма, і памёр, а можа і расстралялі. Паэт Лявон Случчанін, які на той час знаходзіўся ў гэтай жа турме, сцвярджае, што яго аднойчы ўначы разбудзіў голас: «Вядуць на расстрэл беларускага генерала Езавітава». Гэта перадавалася ад камеры да камеры ланцужком.

Яго маглі расстраляць, бо «праходзіў» ён па злачынствах, прадугледжаных арт. 58-1«а» КК РСФСР і 65-1 КК БССР, як і многія іншыя, каго аднеслі да ўдзельнікаў беларускай контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі.

**Ды хто ж ён, генерал К.Езавітаў? Несумненна, герой і пакутнік свайго часу. Гаворачы пра яго, адшукваючы новыя і новыя факты, ні ў якім разе нельга рабіць хоць найменшую спробу падаць Кастуся Барысавіча Езавітава па-за межамі эпохі, у якой ён дзейнічаў. Але несумненна — ён жыў дзеля Бацькаўшчыны і аддаваў справе Радзімы, беларускай справе ўсе свае сілы. Ён служыў Беларусі так, як мог, як жадаў і як лічыў мэтазгодным.**

## в странах мира

**БЕРЛИН.**

Раз уж не удается достаточно заработать на продаже аграрной продукции, стоит попытать счастья на другом поприще. А какое поле деятельности в Германии более благодатно, чем индустрия туризма? Примерно так, по-видимому, рассудили владельцы около 100 крестьянских дворов и руководители сельскохозяйственных предприятий Тюрингии, предложившие свои услуги в организации отдыха на селе.

Воспользовавшись услугами тюрингских предпринимателей, прекрасно провести свободное время может практически каждый — позволяют и достаточно большие «ножницы» цен, и широкая палитра предложений. Досуг можно посвятить конным прогулкам, охоте и рыбалке. Есть предложения специально для детей на период каникул с работой в гончарных мастерских или занятиями живописью. Но наибольшим спросом сегодня пользуется «курс лечения с применением кобыльего молока».

Организаторы нового предприятия надеются таким образом получить необходимые средства для поправки своих финансовых дел. Важность и необходимость такого «дополнительного заработка» признало и земельное министерство сельского хозяйства, выделившее лишь в этом году на организацию «подсобного хозяйства» полтора миллиона марок. В будущем же финансовая поддержка новой отрасли будет еще основательнее — около 5 млн. марок.

**НЬЮ-ЙОРК.**

Сотни взволнованных зрителей заполнили недавно смотровые галереи национального собрания (парламента) Кувейта. Обычно столь неподдельный интерес к законотворческой деятельности вызывает у кувейтцев обсуждение в парламенте таких насущных проблем, как проблема кувейтских военнопленных в Ираке или очередные финансовые злоупотребления властей предержащих. На этот раз, однако, вопрос, вынесенный в повестку дня, был гораздо более «приземленным» и в то же время необычным для молодой кувейтской демократии. Предметом дебатов стали выдвинутые против одного из депутатов обвинения в... пьянстве и супружеской неверности. Согласно версии правоохранительных органов, нетрезвый законодатель пытался применить силу против полицейского, обнаружившего его с любовницей в припаркованном автомобиле.

Стоит ли говорить, сообщает из столицы Эмирата агентство «Ассошиэйтед пресс», что для традиционалистского, живущего по исламским законам Кувейта подобное происшествие является не просто чрезвычайным — оно в принципе выходит за рамки понимания местного обывателя. Употребление запрещенного в стране алкоголя в сочетании с адюльтером могло бы стоить незадачливому депутату политической карьеры и обречь на презрение со стороны соплеменников. Но сам виновник скандала полностью отрицает факт совершения проступка. Кроме того, за него вступились коллеги по национальному собранию: они считают, что вся эта история — измышления прессы, инспирированные правительством для дискредитации парламента. Депутаты потребовали, чтобы на специальные слушания по этому поводу явился лично министр внутренних дел. В случае отказа, считают они, министр должен уйти в отставку.

Однако, пока что «дело о пьянстве и супружеской измене» депутата «зависло в воздухе», и дальнейшая судьба конфликта между двумя ветвями власти этого маленького арабского государства остается неизвестной.

ИТАР–ТАСС.

# О ЧЕМ И КОГО ИНФОРМИРУЕТ КГБ

**Одним из важных институтов суверенного государства, как известно, являются и спецслужбы. Содержание и направленность их деятельности, характер поставляемой в высшие органы власти и управления информации могут оказать в ряде случаев существенное влияние на государственную политику.**

В нашей республике сложилась достаточно сложная внутриполитическая и экономическая обстановка, ряд острых проблем существует и во внешнеполитической жизни. В этих условиях нашим гражданам небезразлично, о чем и кого информирует Комитет государственной безопасности Беларуси. Мы обратились с просьбой ответить на этот и другие вопросы к начальнику аналитического отдела КГБ Петру Григорьевичу Аксючицу.

*— Итак, Петр Григорьевич, о чем КГБ информирует органы власти и управления республики?*

— Правовой основой, определяющей содержание деятельности Комитета госбезопасности по информированию руководящих государственных структур, является «Временное положение о Комитете государственной безопасности Республики Беларусь», утвержденное постановлением Верховного Совета 15 января 1992 года. Среди других в указанном документе определяются следующие направления нашей деятельности (извините, что напоминаю, но, видимо, не все читатели их знают): «...получение разведывательных данных по внешнеполитическим, экономическим, оборонным, научно-техническим, экологическим проблемам для информирования органов власти и управления Республики Беларусь»; «...комплексное изучение оперативной обстановки, подготовка проблемной информации и перспективных оценок для высших органов власти и управления республики по вопросам национальной безопасности».

Исходя из этого, мы и строим свою информационно-аналитическую деятельность, т.е. стремимся обеспечить руководство республики полной и достоверной информацией о тех событиях, явлениях и процессах, которые представляют или могут представить угрозу национальным интересам, а также оказать помощь в контроле и управлении ситуацией. Замечу, что такие интересы и сложные проблемы существуют практически во всех основных сферах жизнедеятельности нашего государства: политической и военной, экономической и научно-технической, экологической и гуманитарной. Такой подход к деятельности КГБ имеет, на мой взгляд, принципиальное значение как для самих органов госбезопасности, так и для республики в целом. В особенности в условиях становления нашего суверенного государства.

Рассматривая данное направление работы как приоритетное, руководство комитета уделяет постоянное внимание его развитию и совершенствованию. Судите сами. Только нашим отделом, несмотря на его относительную «молодость», в прошлом году подготовлено и направлено в различные адреса около 500 документов, в текущем — более 300. В этих документах содержится самая разнообразная информация. От внешнеполитических и внешнеэкономических аспектов во взаимоотношениях Республики Беларусь с зарубежными государствами до экологических проблем в целом и на отдельных предприятиях в частности. Проводились также аналитические исследования по вопросам приватизации, конверсии, борьбы с организованной преступностью, охраны госграницы, состояния транспорта и другие.

*— Не могли бы Вы в этой связи рассказать несколько подробнее о потребителях вашей информации?*

— Получателями нашей информации являются председатели Верховного Совета и Совета Министров, комиссии ВС, различные министерства и ведомства. На местах органы КГБ проводят аналогичную работу в масштабах своих областей и районов, обеспечивая необходимой информацией как центральный аппарат комитета, так и местные органы власти и управления.

Опираясь на Конституцию и законы, при подготовке и направлении соответствующих документов в инстанции мы руководствуемся, в первую очередь, интересами народа и страны, где большинство из нас родилось и выросло. Убежден, что нынешним сотрудникам КГБ, моим товарищам и коллегам и сегодня, и через многие годы не будет стыдно за содержание этих документов.

*— Петр Григорьевич, что Вы можете сказать о реализации информации Вашего ведомства, ее результативности?*

— Об этом можно сказать коротко. Для нас реализация — это своевременное направление актуальных материалов адресатам. При этом мы ни в коей мере не исходим из желания выпятить себя, защитить «честь мундира», а тем более не руководствуемся политической конъюнктурой. Принятие же решений по направленным документам является прерогативой властных структур. Что же касается эффективности, то здесь далеко не все поддается количественному учету. Как, например, можно оценить информацию, на основании которой предотвращены угроза жизни наших сограждан, ЧП на жизненно важных объектах народного хозяйства, политический и экономический урон государству? Возможно, нам и хотелось бы, чтобы осуществляемую работу оценивали в каких-то баллах, но это далеко не главное и не самое важное. Главное — стабильность в обществе, безопасная, нормальная жизнь людей. Мне импонируют в связи с этим слова Эсхила: «Мудр не тот, кто знает много, а тот, чьи знания полезны».

*— Судя по тому, что Вы сказали, Ваше подразделение имеет большой штат?*

— Нет, к сожалению. Мы не тянем по количеству сотрудников даже на кафедру среднего вуза, не говоря уже о НИИ. Рабочий день наш не регламентирован. Работают в отделе офицеры, имеющие хорошее базовое образование, опыт работы в различных подразделениях КГБ. Среди них есть и кандидаты наук. А при такой загрузке и темпах работы, глубине анализа тех или иных проблем — другие сотрудники могли бы также защитить не одну диссертацию. Не сочтите мои слова нескромными, но, бывая на научно-практических конференциях, совещаниях, анализируя труды многих авторов и институтов, прихожу к выводу, что наши работы выглядят не хуже. К слову, при выработке окончательных вариантов наших аналитических документов мы проводим консультации, получаем экспертные оценки со стороны многих ученых и специалистов. Выражаю им, пользуясь случаем, большую благодарность и надеюсь на более тесное сотрудничество в дальнейшем. Ведь служим мы все одному общему делу.

*— И последний вопрос, если это не секрет. Откуда Вы получаете информацию?*

— Нет, не секрет. Основные каналы получения исходного материала — открытые источники информации (зарубежные и отечественные газеты и журналы, научные труды и т.д.), анализируемые через призму интересов национальной безопасности; оперативные возможности КГБ, а также познавательная деятельность самих сотрудников. К примеру, весьма актуальными оказались материалы, подготовленные нами на основе тщательного анализа сообщений прессы об обстановке на АЭС в сопредельных с Беларусью странах. Так, кстати, действуют и известные спецслужбы зарубежных государств.

Вел беседу Василий ТУМАНОВ.



# ДАРИТЕ ЛЮДЯМ РАДОСТЬ!

Е.КЛИМЕНКО, Фото Р.КАЗАКОВА.

**Шесть лет тому назад Анна Герциковна Диско создала в Первомайском районе г.Минска детский коллектив «Скоморохи». Здесь занимаются более 50-ти ребят в возрасте от 8 до 18 лет. Есть уже и первые выпускники, которыми по праву гордится «мама» Анна Герциковна. Анна Цацук работает в Молодечненском театре кукол актрисой.**

**В коллективе выросли пять лауреатов I-го Республиканского конкурса белорусской игры: Лена Сильванович, Дима Черный, Дима Асташко, Аня Тумеля, Лена Берник.**

**Стать артистом, музыкантом, клоуном — не самоцель для ребят. Кто-то мечтает стать врачом, учителем, продавцом.**

**Ну, это что касается будущего. А сейчас мальчишки и девчонки дают по 30–40 представлений в год на всевозможных подмостках, в том числе участвуют в республиканских конкурсах, фестивалях. И даже на гастролях (!) побывали в городе Кричеве.**

**— Мы ездили туда 13 числа в составе 13 человек, жили в 13-й комнате и выступали в 13.00, но несмотря на это нам очень повезло! — улыбаются ребята.**

**Пусть вам всегда везет, дорогие «Скоморохи»! Дарите людям радость.**

**НА СНИМКЕ: «скоморошки» Анжела Ревенько и Елена Сильванович.**

СПАДЧЫНА

# ЗАХАВАЦЬ ТОЕ, ШТО МАЕМ

Марына ГУЛЯЕВА.

«...Ты пачака-а-ай!» — з задавальненнем вішчэў валасаты, як водзіцца ў рок-гуртах, спявак у пашарпаных джынсах. Пасля кожнага аглушальнага «ай!» зала была гатова ў рэшце рэшт аддаць належнае выканаўцу. Але ж зноў: «Ты пачака-а-ай!» Дарэчы, гэта адзінае, што магчыма было пачуць і зразумець. Словам, здорава.

І ўсё ж, на гэтым свяце творчасці студэнтаў эканамічнага універсітэта, якое праводзілася ў рамках фестывалю «Спадчына», было шмат цікавага. Гэта і цудоўнае, на мой погляд аматара, выступленне фальклорнага калектыву «Медуніца», які, як потым высветлілася, упершыню на сцэне, і розныя харэаграфічныя кампазіцыі, вакальныя нумары. Тэатр сатыры і гумару «Тарыф» з мініяцюрамі на беларускай мове проста даводзіў гледачоў да слёз. І нягледзячы на тое, што часам былі няспраўнымі мікрафоны, у зале было холадна, — усё роўна свята атрымалася.

Фестываль народнай творчасці «Спадчына», які нядаўна распачаўся ў сталіцы, праходзіць у тры этапы. Першы — гэта дні народнай творчасці раёнаў. Тыдзень Заводскага раёна ўжо закончыўся. І, па словах членаў журы ад Цэнтра адраджэння і развіцця беларускай культуры, кожнае выступленне ці дзіцячых садкоў, ці школ, ці студэнтаў (якое апісана вышэй) было на самай справе святам.

— Я працавала ў розных раёнах, — кажа І.Б.Жураўская, работнік аддзела культуры Заводскага раёна, — і ведаю, як збіраюцца людзі на культурныя мерапрыемствы. Але тут я была здзіўлена. На творчай справаздачы комплексу пазашкольнай працы «Золак» Палац культуры МАЗа быў перапоўнены! Людзі прыйшлі сем'ямі! Быў не проста аншлаг, а перааншлаг!

— Разумееце, — гаворыць Г.Р.Рубань, метадыст Цэнтра адраджэння і равіцця беларускай культуры, — самае галоўнае, што не было фармальнага падыходу, кожнае свята праводзілася не для «галачкі». Але ўсё роўна дзіўна: здаецца, што зараз людзям трэба, акрамя каўбасы?

І на самай справе цікава, бо відавочна, што камерцыя ў адрозненне ад культуры працвітае. Але, можа, зноў апраўдаліся словы: «Хлеба і відовішчаў»? Ён, гэты старажытны класік, не ўдакладніў, якіх «відовішчаў», і меў рацыю. Бо нешта з іх потым пачало называцца тэатрам, операй — культурай, словам. І, мусіць, добра, што, акрамя чэргаў, мітынгаў — таксама ж «відовішчаў», — мы яшчэ збіраемся на такія вось святы. Няважна, дзеля адраджэння нацыянальнай культуры ці проста пабачыць выступленне свайго дзіцяці. І са словамі Л.Н.Бараноўскай, загадчыка аддзела культуры Заводскага раёна, цяжка не згадзіцца: «Галоўнае сёння — гэта захаваць тое, што ёсць, каб потым, калі мы, у рэшце рэшт, станем добра жыць, не пачынаць усё спачатку».

ПАМЯЦЬ

# «ДЗЯДЫ» І ЎНУКІ

Юлія КАЧАНАВА.

Было вельмі холадна, пахмурна і вільготна, зусім не хацелася выходзіць з кватэры, хай сабе і не вельмі цёплай. Нават ля крамаў на праспекце Скарыны не таўкліся кабеты з клункамі. Але праўду казалі раней: не было б Рымшы, дык быў бы хто іншы. Зусім іншы, дадам я.

Праспект Скарыны, адзінаццатая гадзіна зранку. Каля будыніны НКУС стаіць каплічка са словамі: «Адсюль пачынаўся пакутны шлях у Курапаты...» Адсюль пачаўся шлях у Курапаты і сёлета — 2 лістапада 1993 года. Але гэты шлях быў светлы — як памінальная думка пра пакутнікаў, ахвяраў рэпрэсій фізічных і маральных. Ён ішоў праз амаль увесь Мінск — ад праспекта Скарыны да Маскоўскіх могілак, а адтуль — у Курапаты. У грамадзе пад бел-чырвона-белым сцягам і харугвамі з Пагоняй, сярод зубраў беларускай палітыкі і агеньчыкаў грамніц ружовым святлом ззялі зусім маладыя аблічча. Аднак выпадковыя сустрэчныя ішлі, не звяртаючы ўвагі на працэсію, толькі нехта кінуў: «Во, піянеры...» Ды не, дзядзька, скаўты Беларусі. Для іх усё гэта не ўпершыню, звычай адзначаць Дзяды — даўні. Для іх гэта святы дзень, калі трэба пакланіцца тым, хто змагаўся і загінуў. Для іх гэта сямейны абрад памінання продкаў. Таму на Дзяды яны не толькі ходзяць на мітынгі, але і прыбіраюць занядбаныя магілы (сёлета ездзілі ажно ў Плябань), і ў кватэрах стаяць увечары грамніцы і стаіць куцця.

Не кажу, што я адзначала Дзяды ўпершыню, і ўсё ж сумненні мяне не пакідалі. Ці не дарэмна ўсё гэта: каплічку ля НКУС штогод зносяць у тую ж ноч, на могілках, нягледзячы на Дзяды, малалюдна, ды і ў царквах няма натоўпу паломнікаў. Увогуле: ці заўважыць хто-небудзь гэты дзень? Хлопцы і дзяўчаты з «Саюза скаўтаў Беларусі» глядзелі на мяне здзіўлена: для іх пытанне пра мэтазгоднасць Дзядоў не стаіць. А вось іншыя...

На наступны дзень я прыйшла ва універсітэт з паперынай, на якой было 2 пытанні: як ты правёў учарашні дзень і як трэба было яго правесці. Ананімныя адказы, напісаныя то неразборліва, то ахайна, знішчылі мой танны скептыцызм. Жыццё глыбей і лепей, чым думаеш — гэта я бачыла ў маналогу майго курса. Вось ён, складзены з асобных рэплікаў:

«...Учора я хадзіў у царкву і паставіў там грамніцу. Лічу, што правёў дзень правільна... Пасядзеў у бары, выпіў з сябрамі бутэльку вады за нашых родных, што памерлі... Усё ж прыгадала сваіх памерлых продкаў і памянула кубкам гарбаты... У думках я быў з імі, але наўрад ці ім патрэбны нашы памінальныя грамніцы...»

Так святкавалі Дзяды многія. Шмат хто адказаў так: «Каб была магчымасць — паехала б у вёску да бабулі, там бы Дзяды і адзначыла... Трэба было наладзіць сапраўднае свята, якое так і не адбылося». Былі разважанні: «А сваіх родных (нябожчыкаў) і сяброў — прыгадваю ў асобны дзень... З зайздрасцю прыгадваю сваіх памерлых продкаў, якія ўсе ўжо адпачываюць ад гэтага паганага жыцця (зрэдку паганага)...» І нават: «Што да Дзядоў, то паганскія святы я не адзначаю...» Таму, нават нягледзячы на тое, што быў і адказ кшталту: «Дзядамі і не пахла», я зразумела, што пра гэты дзень памятаюць і шмат ведаюць. Скаўты мелі рацыю больш за мяне...

...А тыя, хто не прыгадаў сваіх родных, няхай ведаюць, што ў тую ноч душы іх продкаў гасцявалі ля грамніц у некага з тых, пра каго я расказваю. Бо яны ў гэты дзень ляцелі на святло.

